# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1242) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 16 СНЕЖНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.


ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## ЖЫЦЦЁ ПАД АРЫШТЫ І СТРЭЛЫ

Нарадзіўся я другога кастрычніка, па старым стылі, 1903 года ў Міхнаўцы, — пачынае Уладзімір Харкевіч сваю складаную біяграфію.

У бацькоў было іх пяцёра — дзве дачкі і тры сыны. Распачалася І сусная вайна. Бежанства. Вывезлі іх аж у Казанскую губерню ў вёску Садзікава. Рэвалюцыя.

Потым Калчак. Папаліў копны збожжа, якія берaглі на галодны год, бо там часта былі засухі. Дык давай тады ўсе, хто што меў, прадаваць і выязджаць.

Прыехалі ў Інзу, адтуль у Маскву. 28 жніўня 1921 г. вярнуліся ў Міхнаўку.

У 1925 годзе ўступіў у рады Беларускай сялянска-рабочай грамады. Быў старшынёй мясцовага гуртка. Потым забралі ў войска ў 3 полк швалежэраў у Сувалкі. Але праз нейкі час захварэў эпілепсіяй, і яго адправілі ў шпіталь. Ляжаў тры месяцы. Прыходзілі часта дзеячы КПЗБ, гутарылі.

— Мне трэба было напісаць ліст у ячэйку ў Рыбакі. І гэты ліст у мяне знайшлі, — успамінае ён.

Пасля трохмесячнага лячэння Уладзіміра Харкевіча адпусцілі дамоў у гадавы лячэбны водпуск. Але толькі што прыехаў дахаты, як прыйшла паліцыя і арыштавала. Арыштавалі трэцяга сакавіка 1927 года і адправілі ў турму на Лукішкі, дзе прасядзеў да лютага 1928 года.

— Столькі часу трымалі без суда. Сядзеў, памятаю, з намі на Лукішках такі Кавалёў з Ашмян. Ой, як ён спяваў, — успамінае турэмныя гады. — Стане на табурэт, бо да акна было высока, і заспявае. А словы такія глыбокія. Я яшчэ сёння памятаю, — і пачынае спяваць:

*Уж ты доля мая доля,*
*Доля буржуазна.*
*Ты прышла к нему нежданa,*
*Радость одняла*
*І твaі, буржуй, палацы*
*Сталі не твоі.*
*Не твaю ль, буржуй, зямельку*
*Пашэт мужычок,*
*Не твая ль, буржуй, кабылка*
*Мужычка везёт...*

У лютым пачаўся суд. Судзілі 56 грамадоўцаў.

— Быў там Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пятро Мятла, Павел Валошын, Максім Бурсэвіч. Нас з Ваўкавыскага павету было пяцёра — Шкодзік, Янкоўскі, Патоцкі, Шчыглінскі і я, — пералічвае.

— Суд цягнуўся тры месяцы.

— Тарашкевіч гаварыў на судзе пабеларуску. Памятаю, — расказвае, — загаварыў ён да паліцэйскага, які сведчыў, а той: „Я не разумею". Тады Тарашкевіч: „Высокі суд! Дакуль гэта будзе? Як можа паліцэйскі даваць паказанні аб тым, што было на сходзе, калі ўсе яны адбываліся на беларускай мове?" Суддзя загадаў яго вывесці. Тады мы ўсе ўсталі і закрычалі, што мы таксама, што не хочам тут быць.

Засудзілі трыццаць сем чалавек, а дзевятнаццаць звольнілі. Прысуджаных ужо ў камеры на Лукішках не павялі. Трымалі на калідоры. Прынеслі іх рэчы — і на цягнік. Харкевіча Уладзі-

(Працяг на стар. 4)

З рэпарцёрскіх запісак

## ХТО ГАНДЛЮЕ...

Вясковым гандлем ужо 35 год займаецца **„Сялянская самапомач"**. Гісторыя гэтай гандлёвай арганізацыі пачалася яшчэ ў снежні 1944 года. Тады адбыўся ў Любліне арганізацыйны кангрэс **Саюза гмінных спулдзельняў „Сялянская самапомач"**.

Невыносліва цяжкія былі пачаткі дзейнасці гэтай арганізацыі. Ведаю гэта з уласнага сямейнага вопыту, бо мой бацька ад 1946 года быў старшынёй гміннай спулдзельні „Сялянская самапомач" у Клюковічах. Разы тры банда „Млота" грабіла і разбурала крамы гэтай спулдзельні, ды за кожным разам папярэджвалі старшыню, каб не смеў адкрываць „камуністычнага" гандлю, бо канец з ім будзе. А старшыня браў у адну кішэню пісталет для ўласнай абароны, а ў другую — цэлую маёмасць спулдзельні, нейкіх 30-50 тысяч злотых у старой валюце, і асабіста адпраўляўся ў Бельск за таварамі. Дома мы ніколі не ведалі: вернецца ён сам, ці прывязуць яго ў... труне.

*

Пасля настаў час будавання. Тады я ўжо быў журналістам і з захапленнем

(Працяг на стар. 4)



*Гандлёвы павільён у Мілейчыцах.* *Фота аўтара.*

## ХРОНІКА

Справаздачна-выбарная кампанія ў у БГКТ насільваецца.

■ У Крывой (гміна Орля) са справаздачным дакладам і з праектам плана працы выступіў Сцяпан Пракапюк. У дыскусіі сябры звярталі ўвагу на той факт, што існуючы клуб селяніна не мае ні радыё, ні радыёлы, ні тэлевізара, ні магнітафона. Усё гэта неабходна для дзейнасці іх гуртка, які ў асноўным складаецца з моладзі (гурток налічвае 25 асоб), і ў гэтым напрамку будуць ісці намаганні гуртка. Апрача таго, прысутныя выказалі жаданне арганізаваць у сваім клубе выступленне харавога калектыву БГКТ, сустрэчу з рэдактарам „Нівы" і падрыхтоўку карнавальнай вечарыны. У праўленне гуртка выбраны наступныя сябры: Ірэна Асіпюк — старшыня, Іван Панькоўскі — сакратар, Сцяпан Пракапюк — скарбнік.

■ На справаздачна-выбарным сходзе ў Вульцы (гміна Орля) у дакладзе і дыскусіі асабліва быў падкрэслены ўдзел членаў гуртка ў грамадскіх пачынах. Пастаноўлена, што ў 1980 годзе моладзь пабудуе танцавальную пляцоўку. Там у праўленне гуртка выбраны: Аляўціна Троц — старшыня, Мікалай Рыбачук — сакратар, Аліна Корзун — скарбнік.

■ Гурток БГКТ у Паўлах (гміна Заблудаў) галоўную ўвагу звярнуў на мастацкую самадзейнасць. Пастаноўлена, што гурток будзе намагацца, каб яго члены прынялі ўдзел у конкурсе „Беларуская песня-80", а драмгурток — у аглядзе тэатральных калектываў, якія арганізоўвае ГП БГКТ. Новае праўленне: Марыя Іванюк — старшыня, Лідзія Андрэюк — сакратар, Мікалай Нікіцюк — скарбнік. Дэлегатам на з'езд БГКТ выбрана Антаніна Рагуская.

■ У Шчытах (гміна Орля) бэгэкатоўцы супольна з гуртком ЛЗС вырашылі пабудаваць спартыўную пляцоўку, меркавалі, як аснасціць мясцовы клуб і стварыць драмгурток. У склад праўлення гуртка ўвайшлі: Мікалай Шымчук — старшыня і дэлегат на з'езд БГКТ, Яўгенія Сахарчук — сакратар, Людміла Савіцкая — скарбнік.

■ Міклашэўскі гурток БГКТ увесь час праяўляе актыўнасць. Там рэгулярна аплочваюцца членскія складчыны, разам з жыхарамі вёскі сябры нашы бяруць удзел у грамадскіх пачынах. Вось і цяпер рамантуюць дарогу, падрыхтоўваюць яе пад пракладку асфальта, належна апякуюцца сваёй святліцай, часам арганізоўваюць у ёй танцавальныя вечарыны. Праўленне гуртка складаецца цяпер з актыўных членаў: Людміла Рута — старшыня, Софія Кучынская — сакратар, Сцяпан Рыбачук — скарбнік.

■ Члены БГКТ у Парцаве (гміна Орля) пастанавілі ўзяць шэфства над вясковым клубам селяніна, у студзені арганізаваць карнавальную забаву, з нагоды Дня жанчын і Дня дзіцяці падрыхтаваць урачыстыя вечарыны, а ў жніўным перыядзе дапамагчы ў працы старым людзям. У плане працы прадбачана таксама сустрэча з літаратарам, пішучым на беларускай мове, і рэдактарам часопіса „Ніва". Як у большасці гурткоў, таксама і ў Парцаве ў склад праўлення выбрана моладзь: Антаніна Палавянюк — старшыня, Людміла Артэмюк — сакратар, Анна Асеннік — скарбнік.

■ У Крывяцічах (гміна Орля) бэгэкатоўцы таксама запланавалі сустрэчы з літаратарам з аб'яднання „Белавежа" і рэдактарам „Нівы". Зробяць агароджу святліцы і супольна з гуртком ЛЗС будуць удзельнічаць у спартыўных мерапрыемствах. Там узначальваць гурток будзе Зінаіда Бобік, сакратаром з'яўляецца Іван Кавальчук, а скарбнікам — Валянціна Кавальчук.

■ У Мядзвежыках (гміна Мілейчыцы) у праўленне гуртка выбраны: Марыя Саўчук — старшыня, Уладзімір Карнелюк — сакратар, Анатоль Такаюк — скарбнік.

■ У Рагачах (гміна Мілейчыцы) у праўленне гуртка ўвайшлі: Сцяпан Рышчук — старшыня, Уладзімір Паўлючук — намеснік старшыні, Яўген Баран — сакратар, Аляксандр Касцюк — скарбнік і Васіль Карнелюк — член.

■ Мікуліцкі гурток БГКТ (гміна Мілейчыцы) у праўленне выбраў: Пятра Леўчука старшынёю і дэлегатам на з'езд БГКТ, Ніну Раманюк — сакратаром і Івана Манцюка — скарбнікам.

■ Сябры з Навасёлак выбралі новае праўленне гуртка з наступных асоб: Турык Мікалай — старшыня і дэлегат на з'езд БГКТ, Рыгор Кочук — намеснік старшыні, Аляксей Волчык — скарбнік.

Працяг на стар. 4

## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

Яны — усяго толькі акраіна горада Сямяцічаў, знаходзяцца ў адным кіламетры за ім, налева ад шашы, што ідзе ў напрамку ракі Буг і далей — Сарнакаў. Каля дзесяці ні то гаспадарак, ні то маламестачковых домікаў з хлеўчыкамі і клунькамі.

Іх можна было б абмінуць у нашым „Слоўніку“, калі б тут не затаіўся важкі кавалачак нашай гісторыі. Ён крыецца не ў тым новенькім ветраку, што высіцца непадалёк шашы на пагорку. Гэты каларытны аб'ект з'яўляецца штучнай дэкарацыяй, узведзенай па рашэнню ранейшых сямяціцкіх начальнікаў за немалыя грошы некалькі год таму назад, калі Сямяцічы „змагаліся“ ў тэлевізійным конкурсе „Банк гарадоў“. Даўно спыніліся баі перад тэлевізійнымі камерамі, суцішыліся збуялыя начальніцкія амбіцыі, а на пабоішчы астаўся ён — нікому непатрэбны вятрак з нерухомымі крыламі і пустым нутром. Таму няхай крылаты прыгажун вас не зводзіць у зман — ён цяперашняе паўтарэнне нядобрай славы „пацёмкінскіх сёлаў“ з часоў царыцы Кацярыны II.



*Антоній Барвіюк — гэта жывая гісторыя Валендзюкоў.*

# Валендзюкі

Ды да таго Валендзюкі не на вятры выраслі, а хутчэй за ўсё на вадзе, і таму раю накіраваць вашу ўвагу ў процілеглы ад ветрака бок і пільней прыглядзецца да рачулкі Камянкі, што жвава бруіцца за будынкамі, у маляўнічай далінцы. Значны нахіл яе плыні, стромкія берагі і зручны доступ да іх здаўна прыцягвае людскія помыслы. Калі пачалі паўставаць над ёю першыя вадзяныя млыны, сёння цяжка сказаць. Затое вядома з дакументаў, што ў 1580 г. у Сямяцічах налічвалася шэсць млыновых колаў. Звычайна на малых рэчках млыны мелі па адным коле. Ці тыя ўсе шэсць сямяціцкіх млыноў знаходзілася на рэчцы Камянцы — невядома. Аднак памяць пра „млынішчы“ на яе берагах захавалася і да сёння. Як прыгадвае васьмідзесяцігадовы **Антоній Барвіюк,** „млыновыя ўрочышчы“ на Камянцы — гэта, ідучы знізу ад Буга: Туранка, Вэска, Карпінец, Хлуй, Паціева. У некаторых з іх перад першай сусветнай вайной было па два млыны, напрыклад, у Туранцы і Паціеве.

Якраз млын у Вэсцы з яго трыма валокамі зямлі і даў пачатак пазнейшым Валендзюкам. Хоць жыхары лічацца радавітымі мяшчанамі, але тут захаваліся нейкія паданні пра тое, што некалі іх продкі належалі да сямяціцкай царквы, хадзілі абрабляць царкоўныя агароды і палі, даглядаць і рамантаваць будынкі. Ці гэта водгулле тых дараванняў тутэйшай царкве, які „фундаваў“ ёй падчашы Вялікага княства Літоўскага Алехна Судзімонтавіч у 1431 годзе і яго нашчадкі, ці загадаў ад 1605 г. канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Іванавіча Сапегі пра абавязак даваць духавенству тутэйшай царквы дзесяціну з сямяціцкіх маёмасцей, да таго бочку жыта, бочку пшаніцы і 10 грошай літоўскіх з кірмашовых даходаў, а таксама вольнае мліва ў млынах і г.д.? Даўнасць „мяшчанскага“ радаводу Валендзюкоў ставіць пад сумненне факт, што да рэформы 1861 г. на паншчыну яны хадзілі ў суседні маёнтак Аннаполь. Ад гэтага вялася пазнейшая традыцыя, што сяляне з вёсак Волька Надбужная, Крупічы, Слохі Аннапольскія, Турна і іншых, некалі прыналежных да маёнтка ў Аннаполі, малолі і пытлявалі ў млыне ў Вэсцы.

Уладальнікі Аннаполя млын здавалі ў арэнду (апошнім яго млынаром быў Уладзіслаў Аксянтовіч), ад яго Валендзюкі амаль ніякай карысці не мелі. Пражыць жа на 3 участках (па 12 дзесяцін кожны) пясчанай зямлі было немагчыма. Таму кожны Барвіюк і Валендзюк (толькі гэтыя два прозвішчы тут „радавыя“) дбалі пра добрага каня і воз. Усе пагалоўна займаліся „балагольствам“, гэта па-сённяшняму — перавозам. Вазілі драўніну з навакольных лясоў на бужанскую бяндзюгу ў Турне, звозілі дровы ў кафлярні ў Сямяцічах і развозілі з іх па ўсяму наваколлю кафлі, „балаголілі“ ў сямяціцкіх крамароў — з таварамі ездзілі ў Пружаны, Брэст, Беласток. І нават ужо ў той час, калі побач праходзіла чыгунка. Што ж, „балагольскі“ транспарт быў проста ў некалькі разоў таннейшы ад чыгуначнага.

Гэтае імкненне да заробкаў „на старане“ перадалося і пасляваенным пакаленням. Усе яны, закончыўшы школы, знаходзілі працу калі не ў Сямяцічах, то ў іншых гарадах. Многія з іх закончылі вышэйшыя школы і сёння выконваюць шэраг грамадска важных прац, напрыклад, з адной сям'і Валендзюкоў выйшлі аж тры сястры — настаўніцы: Валянціна, Ірына і Казімера. Але ў апошнія гады тут пачынаюць больш увагі звяртаць на загонцы ў Голаве, За Гуліцай, Лузках, Цеханавецкім, Шпітальшчыне. Заахвоціў да гэтага паўстаючы каля Сямяцічаў камбінат перапрацоўкі і замарожвання гародніны і садавіны „Гортэкс“. За „пацёмкінскім“ ветраком закусціліся радочкі трускалак, чорнай парэчкі, паявіліся насаджэнні яблынь і груш. Праўда, у апошнюю надта ж цяжкую зіму зайцы „зжэрлі“ ўсю садавіну, аднак гэта не знеахвоціла тутэйшых гаспадароў да такога як-ніяк надта ж новага занятку для нашчадкаў колішніх балаголаў і млынароў.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*наота ж свойска і ўтульна на валендзюкоўскай „гуліцы“.*

## З маёй званіцы

# ПАСЛЯЖНІЎНЫЯ РАЗВАЖАННІ

— Ведаеш, стары, — гаворыць мая Анюта, — калі дачакаю наступнага Спаса, паеду на Грабарку. Хопіць, — кажа, — надрывацца на тваёй гаспадарцы. Трэба пабываць і паміж людзьмі. — Ха-ха-ха! — не вытрымаў я. — Няхай людзі пабачаць, як работа цябе змарнавала. (Скажу вам пацішу, маёй Анюты адзін я не абыму). Надрывалася ты ў мяне, як араб. Давай, Анютка, паталкуем па душах. — Па-першае, — гаворыць яна, — не называй мяне Анюткай. Я ж ужо не дзіця. А па-другое, не падлізвайся. Як злуеш, называеш Ганнай. А то Анютка. Кажы адразу: хочаш выпіць чвэртку? Круціш хвастом, як наш Шарык. — Ну, хачу, — кажу, хаця аб гэтым і не думаў. — Падвечар прыдалося б. А на Грабарку абавязкова паедзь. Калі дачакаеш. — А ці будзе час ехаць? — кажа яна. — То сена сушыць, то жыта жаць. І так навокал. — Ты мне работай не дацінай, — кажу я. — Хочаш ехаць, кінь усё — і ў дарогу. А то жніво і жніво. Як бы цягнулася рускі месяц. Во, калісь было жніво. Хочаш, раскажу. — Расказвай унуку, — кажа яна. — Ён не памятае. — Дзеду, раскажы пра жніво, — просіць унучак. — Раскажы, дзедку. — Ну, сядай і слухай. — Знайшоў урэшце слухача, — сказала старая, хоць і сама наставіла вуха. — Ведаеш, Алік, да жніва даўней рыхтаваліся, як да свята. Ужо перад Пятром бацька гаварыў: — Трэба з сярпамі паехаць да Асоўкі. Пазубіць. Там былі найлепшыя спецыялісты. Потым ішоў бацька ў поле аглядаць жыта. Прыносіў некалькі каласкоў і гаварыў: — Вазьмі, старая, раскусі. Зерне ўжо цвёрдае, трэба пачынаць. Ну і пачыналі жаць. І абавязкова ў суботу. Найлепшы гэта дзень, абыкалі не пачыналі. — А вы, дзедку, жалі? — пытае Алік. — Жаў. І то яшчэ як. Хаця быў малы. Ставілі нас на беразе загона. Там, дзе жыта найменшае. І калі хто парэзаўся, гаварылі: прызнак — быць яму добрым жанцом. Бацька нажатае жыта вязаў у снапы. І ведаеш, чым? Жарабіком. Снопікі мусілі быць роўныя, акуратныя. Нават адна сцяблінка не магла астацца. Гаварылі, грэх раскідаць жыта. — Тады ж, дзеду, многа часу трэба было на гэтае жніво, — перабіў мяне Алік. — Многа, дарагі. Таму яно і цягнулася некалькі тыдняў. Толькі ведаеш, тады быў такі звычай. І ўсе стараліся, каб найлепш выжаць. Роўна паставіць ляшкі. А то суседзі на языкі возьмуць. Добрым жанцом быў той, хто найбольш нажне. Ну, ведаеш, больш як капу снапоў. Ну, і каб спераду ўсіх жаў. Цяпер сярпом не жнуць. Сорам. Адсталы, сказалі б людзі. А цяперашнюю жніўную тэхніку паказаць нашым бацькам! Сказалі б: гэта нячыстае, без хлеба будзем. А колькі ж цяпер работы пры гэтым жніве!.. Толькі тваёй бабулі ўсё няма часу. Нават на Грабарку не магла выбрацца. Самавязка пакосіць, снапы параскідае. Знай, пазбірай да купы. А ўзяць камбайн. Як пажне, то няма чаго і падбіраць. Калі дажывем, на другі год пажну ўсё камбайнам. А табе, старая, куплю сонечныя акуляры: будзеш сушыць збожжа і загараць.

Пакруціла старая пальцам каля вуха, бразнула дзвярыма. Пайшла на вуліцу паплятковаць.

**Г. Мароз**

## Беларуская літаратура
### АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LII

У гумарыстычных апавяданнях Коласа найчасцей прадстаўлены індывідуальныя постаці п'яных герояў. Аднак у некалькіх творах паказвае аўтар гумарыстычную сялянскую грамаду, якая знаходзіцца пад уплывам алкаголю.

З дасканалай, у сэнсе сацыялагічным і звычаёвым карцінай сялянскай п'янай масы маем дачыненне ў апавяданні „Кірмаш“. Пісьменнік паказвае, як велічыня бутэлькі ў руках з'яўляецца мерылам вартасці чалавека, акрэсленнем яго грамадскай пазіцыі. Вось фрагмент гэтага твора:

„Трэцяя, яшчэ большая, грамада народу стаяла каля дома з шыльдаю: „Казенная винная лавка № 67“. Тут былі бабы і мужчыны. Хто выбіваў корак з кварты, паўкварты, а хто, адвярнуўшыся ад людзей, каб не сароміць іх, — з маленькага кручка. З дваццаць людскіх галоў было задрана ўгару так, што нос прыходзіўся якраз проці самай сярэдзіны неба. Хто піў з вялікай бутэлькі, той трымаўся смела: станавіўся на самае віднае месца, падпіраў адною рукою бок і важна цягнуў гарэлку. А калі хто ішоў з „буслам“ — перад тым людзі расступаліся і давалі дарогу, як якому спраўніку“.

Камізм грамады, камізм натоўпу, які траціць усялякую арыентацыю, самастойнасць і губляе разуменне свайго элементарнага грамадскага інтарэсу, дасканала паказаны ў навеле „Выбар старшыні“. П'яная грамада выбірае старшынёй зненавіджанага чалавека толькі таму, што гэты чалавек паставіў многа гарэлкі. Адзін з герояў наступным чынам характарызуе паводзіны п'янага натоўпу:

„У нас ужо такі парадак: хто больш паставіць гарэлкі, той старшыня. А хто ж больш паставіць, як не багаты. Сяляне нашы таго не помняць, што гэтую выпіўку старшыня пасля ў тры разы верне. У нас яшчэ і так бывае, выберуць старшыню, а назаўтра тыя самыя, што выбіралі яго, прыходзяць цалаваць яму рукі“.

Ці ж гэтыя карціны, паказваючыя паводзіны п'янай сялянскай грамады, таксама не з'яўляюцца пасведчаннем рыс беларускага характару? Характару, абнажанага з такой суровасцю сынам беларускай вёскі — Якубам Коласам?!.

Ніхто не зможа сказаць, што Колас, паказваючы селяніна, высмейваючы яго норавы, схільнасці, выяўляючы адну з галоўных яго хвароб — п'янства, здраджваў селяніну або адступаў ад яго, выракаўся. Адным з найвялікшых права-абавязкаў пісьменніка ёсць публічнае выказванне ім праўды аб сваім грамадстве, аб сваім класе. Незалежна ад таго, які гэта праўда мае характар, літаратура дае магчымасць чалавеку, грамадству і народу паглядзець сябе, убачыць сваю маральную прыгажосць і сваю брыдоту. Выкрыванню брыдоты якраз і служыць гумарыстычная літаратура і перш за ўсё літаратура сатырычная. Яе мэта заключаецца ў тым, каб чалавек мог убачыць усе свае адмоўныя рысы і каб мог спалохацца самога сябе. У гэтым якраз і праяўляецца галоўны сэнс літаратурнага камізму.

Колас, несумненна, здаваў сабе справу з гэтай выхаваўчай ролі літаратурнага камізму. І таму так часта звяртаўся ў сваёй творчасці да гумару і сатыры.

Зразумела, што няма непасрэднай залежнасці паміж гумарыстычнай літаратурай, прысвечанай п'янству і ліквідацыі п'янства як грамадскай з'явы. Калі б гэтая залежнасць выступала, п'янства ўжо даўно знікла б з жыцця грамадства. А вядома, што сёння яно ёсць з'явай не менш інтэнсіўнай, чым у той час, калі Колас пісаў творы, яму прысвечаныя. Сказанае ў найменшай ступені не абніжае вялікага грамадскага значэння апавяданняў Коласа, звязаных з п'янствам.

# Перастаў дыхаць

Успомніўся мне белавежскі хор. Яшчэ не так даўно былі мы ўсе сведкамі яго трыумфаў, глядзелі і слухалі яго канцэрты. І вось перастаў існаваць хор „Белавежа“. Вядома, што гэты калектыў карыстаўся добрай славай, меў багаты рэпертуар, члены яго ахвотна выступалі. Яны хочуць і далей спяваць, танцаваць, толькі няма каму заняцца імі. Я стаўлю гэта пытанне пад развагу і культурных улад, і чытачоў. Такі калектыў, як „Белавежа“, вельмі нам патрэбны.

**Рунь**

# ABBA

Фота па заказу




## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Прыснілася мне, што ў мяне вылецеў зуб. Спачатку хістаўся, а потым я яго языком варухнула і зляцела верхняя частка зуба, толькі корань астаўся. Вось я і падумала: як жа яго цяпер вырваць? Гэта зляцеўшая частка зуба была вельмі белая ў выглядзе маленькага стоўбіка з дзіркай у сярэдзіне. Але калі я яго выплюнула, ён разваліўся на кускі. Што можа абазначаць гэты сон?

Марыся

**Марыся!** Твой сон не надта добры. Сведчыць ён аб тым, што нешта дрэннае чакае тваіх сваякоў ці наогул блізкіх. Бо бачыш, калі б ты вырвала зуб з кроўю, абазначала б гэта, што памрэ нехта з блізкіх родзічаў (кроўных); калі б выпаў у цябе зуб без крыві — абазначала б гэта смерць нейкіх „някроўных" сваякоў. Твой жа зуб быў без крыві, ён быў гнілы і паволі разбураўся, дык думаю, такі ж лёс чакае некага з твайго асяроддзя. Можа гэта быць нейкі далёкі родзіч, які, напрыклад, смяротэльна захварэе на рак.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### РЫБА, РЫБА, РЫБА...

Марская рыба ў нас, на жаль, недаацэньваецца, а інтэнсіўнае развіццё марскога рыбалоўства ў апошнія гады дазволіла павялічыць дастаўку гэтай рыбы на ўнутраны рынак. Перспектыўны план развіцця рыбнай гаспадаркі прадугледжвае, што спажыццё рыбы ў Польшчы ў 1980 годзе павінна дасягнуць 10 кг на аднаго жыхара.

Якасць розных гатункаў рыбы ацэньваецца паводле карысных яе складнікоў: бялку, тлушчу, вугляводаў, мінеральных соляў і вітамінаў. У хімічным саставе рыбы найбольшы працэнт складаюць вада, бялок і тлушч. Рыбу прымяняюць не толькі ў харчаванні для людзей здаровых, але і ў дыэтэтычным харчаванні. Апрацоўваючы дыэтэтычнае меню з рыбы, неабходна браць пад увагу рыбу, у якой худое мяса, трэба вельмі дакладна падбіраць па смаку дадаткі, а таксама від тэрмічнай апрацоўкі.

Аднак смакавыя якасці рыбы не заўсёды залежаць ад умення гаспадыні і вопыту. Тут часамі найважнейшае залежыць ад якасці рыбы, на якую непасрэдны ўплыў маюць умовы транспарту і перахоўвання.

Далікатная структура рыбнага мяса, вялікая колькасць у ім вады і бялку спрыяюць таму, што мяса рыбы хутка псуецца. Хуткае развіццё бактэрый часта бывае прычынай затруцця. Свежую рыбу нельга перахоўваць занадта доўга, трэба адразу нешта з яе зрабіць.

Перахоўваць марожаную рыбу можна толькі 24 гадзіны ў тэмпературы ад —4°C да — 8°C.

Рыба з белым худым мясам найбольш падыходзіць для тушэння, найсмачнейшая — з рознымі соусамі, якія робяцца на падставе бешамелевага. Смажаную рыбу пад канец смажкі накрываюць крышкай, каб змякла. Змеленую масу найлепш было б падрыхтоўваць, дадаючы крыху мяса з тлустых рыб, паколькі мяса белай рыбы не надта добра склейваецца. У дыэтэтычнай кухні рыбу вараць у вялікай колькасці гародніны.

Белая рыба, але больш тлустая, вельмі далікатная і сочная. Вельмі падыходзіць на змеленую масу, такім чынам на розныя пашцеты, пасты, фаршыраваную рыбу.

Рыба, якая мае цёмнае мяса, сярэднетлустая, называецца часта „дзікай рыбай", паколькі мяса па выгляду і смаку нагадвае звярынае мяса. Мяса такой рыбы можна падрыхтоўваць рознымі спосабамі: смажанае, печанае, тушанае (у цёмных соусах, напрыклад, старапольскім, венгерскім, грыбным, з вялікай колькасцю араматных прыправаў). Такой рыбы не падаюць варанай ці заліўной. Затое рыбу з цёмным мясам вельмі часта робяць змеленую, спалучаючы яе з мясам белай рыбы ці худой.

**Гаспадыня**

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: М. працаваў на гаспадарцы З. Умова працы была заключана на адзін год. З. застрахаваў М. у ЗУСе і не аплачваў належных узносаў. У часе працы пры жнівах здарыўся няшчасны выпадак, у выніку якога М. прызнаны інвалідам II групы. Пасля гэтага З. здаў гаспадарку дзяржаве за пенсію. Ці М. прыслугоўвае кампенсацыя за калецтва і пенсія, а калі так, то ад каго? Ад гаспадара нічога сыскаць не будзе магчыма.

АДКАЗ: Асобам, якія пакалечаны ў часе выпадку пры працы, а якія працуюць на грамадскіх або прыватных прадпрыемствах, прыслугоўвае аднаразовая кампенсацыя — 500 злотых за адзін працэнт утраты здароўя, а таксама адпаведная пенсія. Сельская гаспадарка лічыцца таксама прыватным прадпрыемствам, і закон з 12 VI 1975 г. аб належнасцях за выпадкі пры працы і прафесіянальныя хваробы адносіцца таксама да працаўнікоў, якія працуюць у сельскай гаспадарцы. Кампенсацыю і пенсію прызнаюць установы сацыяльнага забеспячэння (ЗУС). Кожны працадаўца абавязаны паведаміць у гэту ўстанову аб сваім работніку і плаціць належныя ўзносы. За невыкананне гэтага абавязку пагражае кара. Аднак пакрыўджаны працаўнік мае права патрабаваць ад ЗУСу кампенсацыі і пенсіі незалежна ад таго, ці яго працадаўца выканаў гэты абавязак.




Дарагое Сэрцайка, я выпісваю „Ніву" і чытаю ўсе твае парады. А цяпер і сам прашу ў цябе дапамогі. Я жыў на вёсцы, даязджаў на працу ў горадзе кожны дзень. У мяне і дзяўчына на вёсцы — Люся. Яна краўчыха. З ёю я хаджу больш года. Мы ўжо гаварылі, што будзем жаніцца. Але я змяніў работу. Выехаў у другі горад, гэта далёка, і я ўжо там жыву пастаянна. У 1980 годзе атрымаю ўжо кватэру. Але вось я тут пазнаёміўся з Крысяй. Яна мне вельмі спадабалася. Люся аб гэтым нічога не ведае. Мы пішам толькі лісты, а дома я больш месяца не быў, ужо мяне не цягне да Люсі. Раней дык я суботы не мог дачакацца, каб хутчэй спаткацца з ёю. Люся ў пісьмах пытаецца, чаму не прыязджаю. А я ілгу як магу. Ужо не ведаю, што і выдумляць. У апошнюю нядзелю я быў дома. Да Люсі і заходзіць не хацелася, але падумаў, не выпадае быць і не зайсці. Прасядзеў з ёю вечар, а думкамі ўвесь час з Крысяй. З Крысяй я б хацеў ажаніцца, як кватэру атрымаю, але брыдка перад Люсяй. Не маю адвагі сказаць ёй, што я ўжо маю іншую дзяўчыну. Прашу, Сэрцайка, парай, як мне паступіць.

Янэк з Б.

**Янэк,** не ашуквай Люсю! Не цягні далей гэтай хлусні. Месца Люсі заняла Крыся, і яна стала лішняй. І мусіш ёй аб гэтым сказаць, а калі не адважышся, дык у пісьме нейк далікатна, але ясна напішы. Вядома, што будзе ёй сумна. Але ўсё ж лепшая горкая праўда, чым салодкая мана.

**Сэрцайка**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79



*Ян Сухадола са Старога Ляўкова. На сёлетнім цэнтральным аглядзе заняў ён другое месца ў катэгорыі сучаснай песні.*

*Фота Я. Целушэцкага.*

(Працяг са стар. 5)

## АЗВЯРЭЛАЯ ПОМСТА

І нельга яму не верыць. 49 чалавек у маленькай хаце. Ад аднаго сціску памерці можна было. Адны ў голас маліліся, іншыя крычалі, каб супакоіліся, каб не разрывалі іх сэрца, калі яшчэ жывуць, а ўсе разам наперамен прасілі піць. Толькі вады ім ніхто не даваў.

Выпусцілі іх з гэтай Шыманавай хаты на другі дзень, значыць, у пятніцу, 27 чэрвеня 1941 года. Сонца стаяла ўжо высока. Была дзевятая або дзесятая гадзіна. Паставілі пад плотам і пералічылі. Аднаго чалавека не хапала. Пабеглі ў хату. Там таксама не знайшлі. Палічылі яшчэ раз. Што ж, нямецкая дакладнасць, нават у злачынстве. Зноў 48, замест 49. *„Ордпунг мус зайн!"*. Паўторна абшукалі хату. Скрупулёзна, куток за кутком, і знайшлі таго чалавека, што не хапаў ім да рахунку, што псаваў іх парадак. Выцягнулі яго з хлебнай печкі. Засмолены і ледзь жывы, не вельмі ведаў, дзе ён знаходзіцца, ды хто і чаго ад яго хоча. Асляпіла яго яскравае сонца чэрвеньскага дня. І пакуль паспеў прывыкнуць да яго блеску, найперш пачуў сухі трэск зброі і абсунуўся ля плота. Расстралялі яго на вачах усіх гэтых 48 аднавяскоўцаў. *„Можа на гэтым і закончыцца?"* — з надзеяй падумаў не адзін сярод тых зняволеных сялян, на якіх гітлераўцы здзяйснялі сваю азвярэлую помсту.

Іх пагналі за вёску, дзе шаша ўрэзваецца ва ўзгорак, каб зараз апусціцца ў далінку. Паставілі ля прыдарожнага рову. Кулямётчык прыцэліўся і штосьці зашваргатаў свайму камандзіру, а той даў загад, каб перастроіць групу, бо кулямётчыку будзе нязручна страляць. І тады ўсе сабраныя тут людзі, разам 48 чалавек, зразумелі, што няма для іх ратунку...

Салдаты нахабна накінуліся на іх, каб выканаць загад афіцэра. Кулямётчык зноў прыцэліўся. „Гут", — кіўнуў галавой свайму камандзіру, а гэты афіцэр, адышоўшы пару крокаў, надзеў шапку, застыў на смірна, каб аддаць загад да расстрэлу сялян, жыхароў вёскі Слохі, Вулькі і Клекатова...

І тады пачуўся трывожны сігнал. Хтосьці стрымгалоў імчаўся ў спаленую вёску на матацыкле і трывожна сігналіў. Афіцэр адвярнуўся і пачаў узірацца на гэтага, быццам бы звар'яцелага матацыкліста. *„Дурэнвэтэр! Вас іст дорт?!"* — вылаяўся. А матацыкліст саскочыў з машыны і з крыкам: *„Хальт! Хальт!"* — бег да афіцэра. Быў гэта таксама нямецкі салдат, нейкі афіцэр. Пачаў штосьці гаварыць, чаго сяляне, вядома, не маглі зразумець. А ён тлумачыў, што гэтыя сяляне ў нічым тут не вінаваты, што паранены шафёр таксама памёр бы ад затраты крыві, але дапамаглі яму якраз тутэйшыя людзі, што нямецкага маёра (або і генерала) забілі рускія салдаты, што ён прывёз загад спыніць пацыфікацыю вёскі.

— *Лёс до матка!* — абвясціў тады гэты афіцэр і яшчэ дабавіў ламанай нямецка-руска-польскай мовай, каб падзякавалі гэтаму матацыклісту, што паспеў на апошнюю хвіліну.

І тады людзі ў Слохах пераканаліся, што сярод немцаў таксама знаходзяцца спагадлівыя людзі. Але чым жа можна адкупіць перажытую трагедыю? Нават час не загаіў тут глыбокіх ран. Праўда, людзі не носяць у сэрцы закаранелай нянавісці да сваіх даўнейшых катаў, не жадаюць помсты, але перажытага гора не забываюць. Бо той, хто глядзеў смерці ў вочы і вярнуўся да жыцця, быццам з таго свету, забыць гэтага не зможа... Аб гэтым, аднак, ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**
**фота аўтара**



*Слохі восенню 1979 года.*

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Ва ўсёй краіне праходзяць справаздачна-выбарныя сходы ў ПАРП. Гарадская канферэнцыя ў Гайнаўцы адбылася ў пачатку лістапада. Быў выбраны новы гарадскі камітэт ПАРП і дэлегаты на ваяводскую канферэнцыю.

Высока была ацэнена работа ўступаючага камітэта, а таксама прынята новая праграма дзейнасці партыйнай арганізацыі горада Гайнаўкі. І сакратаром гарадскога камітэта ПАРП быў выбраны Іван Вайцюк, II — Люба Мудэль, III — Іван Сапяжынскі.

*

11 лістапада адбылася гмінная справаздачна-выбарная канферэнцыя ПАРП у Гайнаўцы.

Гайнаўская гміна з'яўляецца адной з лепшых у ваяводстве ў сельскай гаспадарцы. На канферэнцыі дэлегат вёскі Рэпіска Сямён Паўлоўскі далажыў аб выкананні пачыну на дарозе з Рэпіскаў да шашы, якую яны адрамантавалі (0,5 км). Да канферэнцыі ў гміне былі выкананы грамадскія пачыны на суму 1 мільён 25 тысяч зл.

І сакратаром гміннага камітэта ПАРП у Гайнаўцы быў выбраны Мікалай Карпюк, II — Іван Лясота. Дэлегатамі на ваяводскую канферэнцыю выбралі Уладзіміра Асіпюка з Чыжыкаў і Ніну Аверчук з Арэшкава. Канферэнцыя прыняла багатую праграму дзейнасці на наступныя гады.

**Э. Вайсковіч**

## ЧЫГУНАЧНІКІ Ў ЗСМП

Гурток ЗСМП на Чаромхаўскай чыгуначнай станцыі быў арганізаваны ў сакавіку г.г. па ініцыятыве вузлавога камітэта ПАРП. Уступіла 12 членаў, ды ўжо на другім сходзе лік павялічыўся да 27 асоб. Старшынёй быў выбраны Здзіслаў Младзяноўскі. Гэты малады чалавек патрапіў заваяваць давер і добрую рэпутацыю не толькі сярод членаў гуртка, але і ў кіраўніцтва чыгуначнага прадпрыемства. Ні адзін сход моладзі не адбыўся без начальніка станцыі Е. Напюркоўскага або яго намесніка М. Клімовіча. Начальнікі не толькі ўдзельнічаюць у сходах, яны заўсёды служаць добрымі парадамі, а нават грашовай падтрымкай.

Галоўнай мэтай арганізацыі з'яўляецца дзейнасць сярод маладых чыгуначнікаў і грамадска-палітычная праца. Ніводзін грамадскі пачын не адбыўся без членаў ЗСМП. Гэта яны ўпарадкавалі прывакзальны пляц пасля зімы, яны выканалі дэкарацыю і лозунгі на дзяржаўныя святы і гадавіны. Апрача таго рэдагуюць насценную газету з жыцця станцыі.

— Наш напрамак дзейнасці, — кажа сябра Младзяноўскі, — гэта разбудова арганізацыі. Думаем стварыць гурток у кандуктарскіх дружынах і там праводзіць грамадска-выхаваўчую працу сярод маладых кандуктараў.

У палове кастрычніка былі праведзены выбары ў гуртку. Сябра Младзяноўскі перадаў сваю функцыю малодшаму таварышу Юрку Яўдосюку, сакратаром была выбрана Ірэна Гансяроўская. Спадзяемся, што яшчэ не раз давядзецца аб чыгуначным гуртку ЗСМП у Чаромсе напісаць на старонках „Нівы".

**Ул. Сідарук**

## ЁСЦЬ РОЗНЫЯ ЛЮДЗІ

Мой сябра Мікалай Бакун, сын Марты, з вёскі Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны бядуе, што ў час малацьбы ў суседняй вёсцы Рудуты згубіў кашалёк з грашыма і дакументамі. Чалавек не так шкадуе грошай, як дакументаў, і цяжка яму паверыць, што ёсць людзі, якія не падкінулі б хаця ўначы на вуліцу яго дакументаў. Няхай бы грошы ўжо ўзяў хто там. Але вось знайшоўся чалавек, які, мабыць, забраўшы грошы, паперы ўкінуў у печ. Людзі любяць М. Бакуна. Гэта чалавек, які з'яўляецца абмалотчыкам і мае ўласны малацільны агрэгат. Многім малоціць і ў Тапарках, і ў суседніх вёсках. А вось жа здарылася чалавеку такое. Мікалай Бакун прасіў мяне, каб надрукаваць гэта ў „Ніве", бо хоча, каб людзі вучыліся быць сумленнымі, каб па-сяброўску адносіліся адзін да аднаго, не былі ласыя на чужое.

**М. Панфілюк**

## ВУЧНЁЎСКІ КААПЕРАТЫЎ

Вучнёўскія кааператывы маюць шмат заданняў. Яны рыхтуюць кадры для ГСаў і ВССаў. Вялікую ролю адыгрываюць настаўнікі, якія апякуюцца вучнёўскімі кааператывамі. За шматгадовую дзейнасць яны атрымліваюць значкі „Заслужаны дзеяч спулдзельчага руху". Такія прыемныя хвіліны былі нядаўна ў клубе „Сполэм" у Беластоку. Вышэй названыя значкі атрымалі: Ядвіга Адамская, Ліда Бэбко, Міхась Грышко, Янка Іванюк, Андрэй Ялоза, Марыся Какарэка, Валянцін Карпюк, Рышард Масілевіч, Галена Мушынская, Мікалай Няплоха, Галіна Паёнк, Марыся Пашко, Параскева Рушук, Юрка Сівік і Тадэўш Ваўжыняк.

**А. З.**

## ВЯЛІКАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ

У палове лістапада Гайнаўскае прадпрыемства драўнінная прамысловасці адзначыла вялікае свята. Аб велічыні гэтага свята сведчыць і той факт, што ў гэты дзень звыш дзвюхтысячны калектыў камбіната не пайшоў на працу — усе рабочыя мелі вольны дзень.

Цэлае прадпрыемства, усе будынкі прынялі святочны выгляд, новыя лозунгі, дзяржаўныя сцягі. У гэты дзень у доме культуры „Ляснік" адбыўся вялікі сход рабочых, на якім міністр лясніцтва і драўніннай прамысловасці Тадэўш Сквіжынскі ўдэкараваў сцяг Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці Ордэнам Працоўнага Сцяга II класа.

Гэтую вялікую ўзнагароду ГППД атрымала па прапанове Ваяводскага камітэта партыі за заслугі ў развіцці горада, за прадукцыйную, грамадскую і палітычную актыўнасць.

Ва ўрачыстасці прыняў удзел I сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку Уладзіслаў Юшкевіч.

У час урачыстасці заслужаныя людзі прадпрыемства былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. Кавалерскія Крыжы Ордэна Адраджэння Польшчы атрымалі Ян Крыштопік, Мечыслаў Вільчынскі, Уладзіслаў Зін і Казімір Дарашкевіч. Залатыя Крыжы Заслугі атрымалі Язэп Адамовіч, Пётр Цівалюк, Валянцін Фурманэк, Казімір Рох і Януш Станішэўскі.

Апрача гэтага, было ўручана шэсць сярэбраных крыжоў заслугі, чатыры бронзавыя, 18 знакаў „Заслужаны для Беласточчыны" і многа прафесіянальных.

Такое вялікае прызнанне для працы рабочых будзе мабілізаваць іх на яшчэ лепшыя і вышэйшыя здзяйсненні.

**Вірскі**

## СА СПАЗНЕННЕМ

„Спэнд жывёлы" ў Дубічах Царкоўных мае нядрэнныя вынікі ў скупцы ад сялян рознай жывёлы. Адзін раз у тыдзень (аўторак) прымаюць свіней, а ў чацвер — кароў, бычкоў. Так устаноўлена, што два разы ў месяц прымаюць большыя штукі, а два разы цялят.

Часта бывае, што быдла начуе тут на месцы ў будынку аборы і далёка чуваць яго голас. Галодныя каровы дамагаюцца свайго. Яшчэ добра, калі на другі дзень забяруць іх самаходамі ў Бельск, але бывае, што і тры дні пройдзе, а жывёла не адпраўлена.

Мікалай Герасімюк — ваговы спэнду не надасца свайго корму для галоднай жывёлы. Нікто яму за гэта не заплаціць, а колькі спатрэбіцца, каб падкармляць, няма што й лічыць. І хто ў гэтым вінаваты?

Найгоршы балаган з адпраўкай жывёлы бывае ў лістападзе і снежні кожнага года.

**М. Панфілюк**

## З ВЁСКІ АГАРОДНІКІ

Дарагая „Ніва", я пішу табе першы раз. Вучуся ў беларускім ліцэі ў Бельску. Я пастаянны чытач „Нівы". Мы ў школе на беларускіх уроках чытаем „Ніву". Сёння я хачу напісаць пра адну сям'ю з вёскі Агароднікі і хачу, каб гэта было ў газеце „Ніва".

Грыгарчук Васіль — першы гаспадар у вёсцы Агароднікі, Бельскай гміны. Ён гаспадарыць разам з жонкай. У яго трое дзяцей: Андрэй, Аліна і Дануся. Яны вельмі многа памагаюць бацькам у гаспадарцы, у полі, асабліва летам. Васіль Грыгарчук гаспадарыць на 16 гектарах зямлі. Ён спецыялізуецца ў гадоўлі малочных кароў і маладняку. У 1960 годзе пабудаваў абору, у 1974 — яна была механізавана і мадэрнізавана. У аборы прыстроілі шуфлю, якая вывозіць гной. Ёсць тут і вада для кароў. Кароў стаць 11, цялят — 5 і маладняку — 6 штук. Кароў доюць электрычнай даілкай „Кракавянка". Цяпер ён купіў другую даілку. Прадукцыйнасць малака ад 80 да 120 літраў. Штогод ён прадае каля трох тон ялавічыны.

Гаспадарыць вельмі памагае яму трактар „Урсус С-330". Гэты трактар ён купіў у 1976 годзе. На трактары вельмі любіць ездзіць яго сын Андрэй. А ўвогуле ўсе ў сям'і Васіля ўмеюць працаваць на трактары.

Акрамя трактара Васіль мае шмат іншых сельскагаспадарчых машын, якія памагаюць у штодзённай працы. Сее жыта, пшаніцу, авёс, ячмень, садзіць бульбу і буракі. Сее многа ільну. Гаспадарчыя будынкі вялікія. Разам з жонкай пабудавалі прыгожы дом. У ім вада і цэнтральнае ацяпленне. Новая мэбля. Домам поўнасцю займаецца жонка Анісся. Гэта добрая, працалюбівая жанчына. Яна ўмее разумна раздзяляць працу ў хаце і ў полі. Сімпатычная, умее з кожным пагаварыць, параіць. Дзеці яе слухаюцца.

Сям'я Грыгарчукоў — гэта добрыя людзі. Яны нікому не робяць на злосць, памагаюць суседзям. Жывуць згодна. За добрыя вынікі ў спецыялізацыі Васіль атрымаў шмат дыпломаў і медаляў.

У 1971 годзе ён атрымаў Сярэбраны Крыж Заслугі, у 1973 — знак „Заслужаны працаўнік сельскай гаспадаркі", у 1977 годзе — дыплом за выкананне ўсіх прадукцыйных абавязацельстваў, у 1978 годзе — дыплом за высокую пастаўку малака і добрыя вынікі ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная".

**Аднавясковец**

## У АДНЫМ МЕСЦЫ НА ШАШЫ

На шашы Гайнаўка-Кляшчэлі, паміж вёскамі Ягаднікі і Пасечнікі Вялікія ёсць адно месца. Тут на некалькі метраў даўжыні і на ўсю шырыню дарогі абсела зямля і зрабілася яма. Вясной навазілі сюды свежага пяску, які вада крыху прыбіла, але ямка засталася. Варта як найхутчэй зрабіць тут парадачны рамонт.

## ВІНАВАТЫ ВЫКАНАЎЦА

Ужо пісалася, што вуліца ў Карыціскак, Дубіцкай гміны выглядае вельмі жаласліва, ды ад таго часу нічога не змянілася.

Дубіцкая гміна прызнала на рамонт гэтай вуліцы немалую суму і дала ўсё, што неабходнае. Але вось выканаўца — Раён эксплуатацыі публічных дарог у Бельску і „ў вус не дуе". Не думае вуліцу закончыць! Варта, каб выканаўца прачнуўся.

**П. Д.**

## У ВУЛЬЦЫ

Неяк выбраўся я ў Орлю веласіпедам. Праязджаючы каля вёскі Вулька, убачыў я тутэйшы прыпынак ПКС, які знаходзіцца каля шашы. Прыпынак, як сметнік. Нікто яго ўжо даўно не прыбірае, вокны выбітыя. А зіма не за гарамі. Куды ж будзе зайсці чалавеку, каб схавацца ад ветру і снегу? Трэба хуценька зрабіць тут парадак!

**Румі**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ШТО З ПКСам?", „Ніва" № 34 (1226) ад 26.08.79.**

**Адказвае:** PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ W BIAŁYMSTOKU.

Odpowiadając na notatkę prasową „Co z PKSem", Oddział Osobowy PKS w Białymstoku w wyniku przeprowadzonego postępowania wyjaśniającego informuje, że powodem nieregularnego kursowania autobusów na trasie Białystok—Ciełuszki był i jest brak taboru autobusowego. Oddział dysponuje wyeksploatowanym taborem, który z tego względu ulega częstym awariom na trasach, a z uwagi na brak części zamiennych nie może zapewnić w pełni gotowości technicznej autobusów. Poważną przeszkodą w regularnym kursowaniu autobusów jest również brak dostatecznej ilości kierowców. Ponadto na wymienionej trasie ma wiele do życzenia stan drogi. Szczególnie w okolicy wsi Pawły, gdzie istnieje wiele wyboi i nierówności. Jest to przyczyną częstych awarii autobusów.

Tutejszy Oddział widzi i w pełni rozumie trudności dojeżdżających osób i zapewnia, że dołoży ze swej strony starań, aby poprawić regularność kursowania na trasie Ciełuszki—Białystok.

Z-ca Dyrektora d/s Przewozów
Oddziału Osobowego PKS w Białymstoku
Ryszard Lider

**Яшчэ раз да публікацыі „ДОБРАЕ САПСАВАЛІ, А ЛЕПШАГА НЕ ЗРАБІЛІ", „Ніва" № 35 (1227) ад 2.09.79 г.**

**Адказвае:** ZASTĘPCA NACZELNIKA MIASTA BIELSKA PODLASKIEGO.

W odpowiedzi na artykuł krytyczny dotyczący remontu ulicy Ogrodowej pragnę wyjaśnić co następuje:

Roboty rozbiórkowe polegające na zdjęciu brukowca rozpoczęte zostały w czynie społecznym przez pracowników zakładów pracy w m-cu październiku 1978 roku przygotowując w ten sposób plac budowy pod wykonanie kanału deszczowego na ul. Ogrodowej. Kamień pochodzący z rozbiórki został przekazany dla Przedsiębiorstwa Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej z przeznaczeniem na grysy. W tym też roku (1978) PGKiM wykonało 618 m.b. kanału deszczowego.

W m-cu maju 1979 r. również w czynie społecznym wykonano część koryta oraz sukcesywnie dowożono niezbędną podsypkę z piasku. Mając jednak na uwadze potrzebę ustabilizowania się gruntu po wykopie pod kanał deszczowy, czasowo wstrzymano prace drogowe na tym obiekcie. W czasie powyższej przerwy została wykonana linia elektryczno-oświetleniowa o długości 500 m.b.

W chwili obecnej stan zaawansowania robót na ul. Ogrodowej przedstawia się następująco:

— ulica została okrawężnikowana na całej długości,

— wykonano podbudowę żwirową na całej ulicy,

— aktualnie PGKiM kończy prace związane z wykonaniem podbudowy betonowej.

Pragnę również poinformować, że przy sprzyjających warunkach atmosferycznych do końca br. planowane jest jeszcze ułożenie asfaltu.

Reasumując powyższe pragnę stwierdzić, że kompleksowa modernizacja ulicy w czynie społecznym wraz z jej wszystkimi urządzeniami nie jest możliwa ze względów technicznych w takim terminie, jak to sobie wyobrażają mieszkańcy.

Z-ca Naczelnika Miasta
(—) Leoncjusz Parafiniuk

**Да публікацыі „ПАСТКА", „Ніва" № 40 (1232) ад 7.10.79 г.**

**Адказвае:** URZĄD GMINY W BIELSKU PODLASKIM.

W odpowiedzi na notatkę prasową w sprawie naprawy przepustu we wsi Dubiażyn, Urząd Gminy powiadamia:

Podczas powodzi, jakie miały miejsce wiosną bieżącego roku został uszkodzony przepust na ulicy we wsi Dubiażyn. W związku z tym przepust został rozebrany i zasypany. Miejsce po rozebranym przepuście zostało czasowo zabezpieczone przez ogrodzenie.

Ponieważ w roku bieżącym z powodu braku cementu był ograniczony wyrób kręgów betonowych przez przedsiębiorstwa produkujące materiały betonowe, Urząd Gminy nie miał możliwości wcześniejszego zaopatrzenia się w kręgi. Z chwilą otrzymania kręgów nowy przepust został założony w dniach 13—14.IX.1979 r. Nieprawdą jest, że nikt z Urzędu Gminy sprawą naprawy przepustu we wsi Dubiażyn nie zajmował się.

Obecnie ulica we wsi Dubiażyn na całej długości jest przejezdna.

Z up. Naczelnika Gminy
Włodzimierz Kuczyński
Inspektor

**Да публікацыі „ПААБЕДАЛІ", „Ніва" № 34 (1226) ад 26.08.79 г.**

**Адказвае:** GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W ORLI.

Zarząd Gminnej Spółdzielni „S. Ch." w Orli nawiązując do felietonu zamieszczonego w Waszym tygodniku dotyczącego nieświeżych, zimnych, nieestetycznych potraw wyjaśnia, że podjęte zostały odpowiednie kroki celem wyeliminowania podobnych sytuacji.

A mianowicie udzielono upomnienia szefowym kuchni oraz kelnerom. Kierowniczce Zakładu przypomniano o ściślejszym kontrolowaniu potraw wydawanych z kuchni, by w przyszłości uniknąć podobnych zjawisk.

Zarząd G.S.
(Podpis nieczytelny)




**Уладзіслаў Кубік, Вроцлаў,** піша, што пошта адмовілася яму выпісаць „Ніву" на 1980 год. Піша таксама, што цяпер ні ў адным кіёску ў Вроцлаве няма „Нівы".

Рэдакцыя просіць у такіх выпадках, як вышэйшы, падаваць поўную назву пошты, якая не прымае падпіскі. Бо яшчэ раз выясняем, што кожная пошта ў нашай краіне, кожны аддзел, кожная экспедыцыя РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" падпіску на „Ніву" прымае. Увага, напамінаем! Спасылайцеся на „Інфарматар польскай прэсы", нумар індэкса 36671, пад якім знойдзеце „Ніву" і ўмовы падпіскі на яе. Пацвярджэнне гэтай інфармацыі мы атрымалі ў І аддзеле РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" у Беластоку, вул. Ліпова.

**„Н"** напісаў нам ліст на тэму артыкула Мікалая Панфілюка аб скупцы бульбы ў Дубічах Царкоўных. Наш чытач не згаджаецца з Мікалаем Панфілюком, што скупка праходзіла так добра, як той напісаў. Згаджаецца аднак з тым, што пісаў і Панфілюк, што становішча палепшылася, калі ўмяшаўся начальнік гміны. Але чытач справядліва пытае: ці ж начальнік можа цэлымі днямі стаяць каля кіраўніка скупкі і вучыць яго, як працаваць?



 

Імпартгумар

## КАПРЫЗНАЯ

Суботні вечар. Муж і жонка толькі што павячэралі. Яна гаворыць аб планах на нядзелю:

— Дарагі, як ты глядзіш, каб мы паехалі на пікнік у Эль Цігрэ?

— А калі пойдзе дождж?

— Так, бадай, маеш рацыю. Лепш пойдзем у кіно.

— Ну, вядома, каб псаваць зрок і глядзець, як на экране праслаўляюць распусту.

— Можа, пойдзем на іпадром? Гэта такое прыгожае відовішча...

— Добрае відовішча! Ты хочаш, каб я прайграў усю зарплату і ўсе нашы ашчаднасці?

— Не нервуйся так, табе гэта шкодна, мілы. А што, калі мы адправімся ў басейн?

— Ты з глузду з'ехала! У кастрычніку? Ты хочаш, каб я схапіў запаленне лёгкіх?

— Дык там жа ваду падаграваюць...

— Тым горш. Выйдзеш пасля гэтага на вуліцу — і, калі ласка, запаленне гарантавана.

— О, я прыдумала! Мы пойдзем у госці да маёй сястры.

— Але мы іх не папярэдзілі, і іх напэўна не будзе дома.

— Хто-небудзь ды будзе. Яна мне званіла, што ў яе захварэла дзіцё.

— І ты мяне туды цягнеш? Яно ж можа нас заразіць!

— Ну што ты, мілы. Але калі ты баішся, пойдзем лепш у заапарк, мы з табой там ужо не былі многа год.

— А калі леў выскачыць з клеткі?

— О Госпадзі! Ну добра, застанешся дома і будзеш глядзець тэлевізар!

— Спрытна ты прыдумала! Адзіны дзень, калі мы можам куды-небудзь пайсці, а ты сілком саджаеш мяне да тэлевізара!

— Але, дарагі, я...

— Гэта табе не падыходзіць, тое цябе не задавальняе! Ах, якая ты ў мяне капрызная!

**Фларэс** (Аргенціна)




**На трынаццатым годзе сямейнага жыцця ён непрыкметна для сябе закахаўся ў жонку.**






*З цыкла „Людаведы".*




*Без слоў.*

### АБАВЯЗАК

Бацька на вяселлі 23-гадовага сына, які нідзе не працуе, узнімаючы чарку, прымаўляў: „Жадаю вам, дзеці, шчасця, дабра і здароўя. Наш бацькоўскі абавязак дагадаваць вас да пенсіі, а там жывеце сабе, як ведаеце".

### ЭХ, ДАРОГІ...

Спыніў п'яны шафёр машыну перад мостам, гаворыць сустрэчнаму селяніну:

— Шалёнае будаўніцтва, дзядзька! Раніцой яшчэ не было тут мосціка, толькі брод...

— Што ты, хлопча, гэты мост стаіць тут з 1934 года!

— Тады гэта не мая вёска... І што цяпер за дарогі такія дзіўныя...

### НЕ ХВАЛІСЯ БЕЗ ПАРЫ

*— Калі мяне*
*падгоняць зверху трошкі,*
*пралезу*
*праз любыя дошкі, —*
*сказаў аднойчы*
*Малатку Цвічок.*
*А сам,*
*як трапіў на цвярды сучок,*
*зламаў спіну,*
*упаў ля плоту,*
*да пахвальбы*
*згубіў ахвоту.*

**М. Сіскевіч**

### ВОСЬМЫ

Сядзіць на беразе рэчкі Парфен, рыбачыць. Надыходзіць пан Варона, цікавіцца:

— Што ты робіш?

— Лаўлю карпаў.

— А чаму ж без вудкі?

— Ды я накіроўваю на ваду люстэрка, рыба ўбачыць сваё адлюстраванне і выскаквае на паверхню...

— І шмат гэтак злавіў?

— Ты будзеш восьмы, — адказаў Парфен.

### НЕЙК ВЫЙДЗЕ

Заходзіць у Задрыпатэльне пан Варона.

— Ну, дык як будзем шыць? — пытае Чык-Чукоўскі.

— Вы шыйце добра, а дрэнна яно само выйдзе.



### ПАКУЛЬ ЖЫВЫ

Кастусь да жонкі:

— Жонка, ты нарубала дроў? Рубай, пакуль я жывы, бо як памру, то сама будзеш рубаць.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Радавому Сміту загадалі абабраць вядро бульбы.

— У наш касмічны век у арміі ўжо павінна быць машына для абірання бульбы, — прабурчэў Сміт.

— Вядома, і вы з'яўляецеся яе апошняй мадэллю, — адказаў сяржант.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### СВЕЖАЯ КАПЕЙКА

— Ці быў ты на базары?

— Быў.

— Што ж ты купіў?

— Казу.

— Колькі заплаціў?

— Сем капеек.

— А дзе ж каза?

— Прадаў.

— Колькі ўзяў?

— Пяць капеек.

— Навошта ж ты так патраціўся дарэмна?

— Нічога, што патраціўся, абы была свежая капейка.




*Гадзіннік з гарантыяй* „Made in Zadrypanka".

### З „Весніка Задрыпоніі"
### ТРЭНІРОЎКА — МАЦІ ПОСПЕХУ

Куды больш за сваіх сяброў па друкарскай ... жыне працуе з мячом нападаючы В. Штапель. „Буду трэніравацца яшчэ больш, — заявіў ён, — калі мяне дыскваліфікуюць не на пяць гульняў, а да канца сезона."

### РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ




## ЦІХІ ВЕЧАР

**Словы А. Русака**
**Музыка Г. Вагнера**

Ціхі вечар у сузор'і
Над сялом плыве,
Засвяціліся агнямі
Росы на траве.
Не сама к табе прыйшла я —
Сэрца прывяло,
А свайму я сэрцу веру —
Шчасце тут знайшло.

Не пытайся аб каханні,
Бо не адкажу,
Толькі знаю, што адна я
Без цябе тужу.
Толькі знаю, што пазнала
Радасць я з табой,
Толькі знаю, што адзіны
Ты, любімы мой.

Заўтра мы насустрач сонцу
Выйдзем на палі,
Дзе парою веснавою
Нівы расцвілі.
А сягоння ясны месяц
Выплыў за сяло,
Не сама к табе прыйшла я —
Сэрца прывяло.

## Курёзы

### АЎТАМАБІЛЬ ЗА ПЯЦЬ ФРАНКАЎ

У французскіх газетах з'явілася даволі інтрыгуючае паведамленне: прадаецца зусім новы легкавы аўтамабіль знакамітай маркі. І прадаецца ўсяго за 5 франкаў альбо 2 долары, альбо 1 фунт стэрлінгаў. Усе, чытаючы такую аб'яву, прынялі за жарт. Ды на справе жарту тут ніякага не было. А сутнасць вось у чым. Паміраючы, багаты француз завяшчаў прадаць яго новы аўтамабіль, а выручаныя грошы аддаць яго былой палюбоўніцы. Жонка нябожчыка вырашыла выканаць апошняе пажаданне свайго мужа і дала названую вышэй аб'яву.

### ЛУПЦАВАЦЬ ІХ! ЛУПЦАВАЦЬ!

Якімі мерамі можна павысіць дысцыпліну ў паўднёваафрыканскай арміі? Як змагацца з непадпарадкаваннем салдат, „якія не хочуць прыстасавацца да сістэмы?" Гэтыя надзённыя пытанні сталі тэмай дыскусіі, праведзенай у пачатку жніўня ў сталіцы ПАР. Самую радыкальную меру прапанаваў начальнік медыцынскага ўпраўлення сіл абароны ПАР генерал-маёр Нацвоут: увесці цялесныя пакаранні. „Калі кожны салдат будзе ведаць, што ён можа атрымаць перад строем удар мокрым рамянём або чатыры-шэсць удараў бамбукавай палкай, то гэта, на маю думку, утрымае яго ад непадпарадкавання", — заявіў Нацвоут. Дарэчы, ён выступае за ўвядзенне цялесных пакаранняў і ў школах.




**Не бяда, калі назавуць дурнем. Бяда, калі сапраўды ім будзеш.**